

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 20 ліпеня 1990 г. № 29 (3543) ● Цана 10 кап.








*Помнік Скарыне:*

## ВАНДРОЎКА З ПРАСПЕКТА Ў ВЕРХНІ ГОРАД

**Закончыўся чарговы тур рэспубліканскага конкурсу на помнік Скарыне ў Мінску. У адрозненне ад папярэдніх этапаў тут не ставілася задача выяўлення лепшага пластычнага вырашэння. На думку журы конкурсу прывязка скульптуры да пляцоўкі перад каланадай Акадэміі навук аказалася для мастакоў і архітэктараў вельмі цяжкай, лічы—невырашальнай задачай.**

**Цяжка — не значыць немагчыма. У гісторыі мастацтва нямала выпадкаў, калі шэдэўры манументальнай пластыкі нараджаліся менавіта ў выніку творчага асэнсавання нестандартных горадабудаўнічых сітуацый. Але замест таго, каб накіраваць творчы імпэт удзельнікаў конкурсу ў гэтым кірунку, журы прапанавала ім, так бы мовіць, «аблегчаны варыянт»—пашукаць у горадзе іншае месца, такое, каб не было праблем з прывязкай. Такім чынам, калі на пачатку конкурсу актыўна праводзілася дырэктыва на пабудову хоць якога-небудзь помніка—абы ў запланаваны тэрмін, дык зараз ідзе гаворка пра помнік які-небудзь і дзе-небудзь. Бо прывязка да пляцоўкі перад акадэміяй пераконвае ў тым, што сёлета помнік зроблены не бу-**

**(Працяг на стар. 2).**

## УНУМАРЫ:



## Няма сонца і... білетаў

**18 ліпеня ў Віцебску пачаўся**
**ІІ Усесаюзны фестываль польскай песні**

Прэс-цэнтр фестывалю, які сёлета працуе на трох мовах — беларускай, польскай і рускай, — напярэдадні першага канцэрта выдаў з камп'ютэраў пакет інфармацыі. Яна дазваляе сцвярджаць, што ў параўнанні з першым фестывалем адбыліся даволі істотныя змены.

Зменшылася колькасць афіцыйных гасцей. А гэта азначае, што фестываль, напэўна, пройдзе ў больш дзелавой, творчай атмасферы. Менш прыехала і прадстаўнікоў польскай прэсы. Ды гэта зусім не сведчыць, што свята польскай песні ў Беларусі страціла значэнне для прапаганды песеннага мастацтва палякаў. Наадварот: склад польскай дэлегацыі вельмі прадстаўнічы. Сярод выканаўцаў — такія «зоркі», як Аліцыя Маеўска, Іяланта Яшкоўска, Лола Шафран, Станіслаў Сойка, Уладзімеж Корч, групы «Комбі», «ТСА», «Уок эвэй». Савецкая эстрада прадстаўлена Ігарам Тальковым, Сяргеем Крыловым, Жэнем Белавусавым, групамі «Міраж», «Сталкер», «На-на», «Любэ» і іншымі; Беларусь — «Песнярамі», «Сябрамі», дуэтам Я. Паплаўская — Я. Ціхановіч, маладымі салістамі. Сярод гасцей — славутая спявачка Гінтарэ Яўтакайтэ (ЗША).

Канкурсанты — а менавіта ім аддадзена сёлета найбольш увагі — прыехалі ў Віцебск з многіх гарадоў краіны. Значную групу складаюць беларускія спевакі і калектывы. Гэта Вольга Замошчанка і Яўгенія Рыжаўская з Магілёва, Алена Лукашэнка з Пінска, Вікторыя Наскова з Віцебска, Аляксандр Перцаў з Мінска, групы «Ісціна» (Гродна) і «Джазко» (Мінск). Усяго ў конкурсе ўдзельнічаюць 24 салісты і 14 груп. Сярод іх — Галіна Герман з Малдавіі. Можа, прозвішча славутай польскай спявачкі дапаможа ёй перамагчы?

Праграма фестывалю прадугледжвае дзесяць канцэртаў, у тым ліку дабрачынны ў фонд «Дзеці Чарнобыля». Пройдуць канцэрты маладых выканаўцаў, членаў журы, на чале якога Ігар Лучанок, «зорак» польскай і беларускай эстрады. У рамках фестывалю адбываюцца выстаўкі польскіх мастакоў, кнігі, у тым ліку і самвыдата, фестываль польскага фільма, а таксама навуковая канферэнцыя «Руска-беларуска-польскае параўнальнае мовазнаўства і літаратуразнаўства».

Як сказаў мастацкі кіраўнік фестывалю Міхаіл Фінберг, сёлетні склад канкурсантаў роўны і больш высокі ў параўнанні з першым фестывалем. Менавіта таму загадзя цяжка вызначыць фаварытаў. Хто пераможа — пра гэта вы даведаецеся з фестывальных рэпартажаў і тэлетрансляцый.

А цяпер, у гэтыя дні найбольш папулярная ў Віцебску песня — «Пусть всегда будет солнце». Сёння сонца так і не здолела прабіцца праз нізкія хмары, што нясуць дождж. Між тым білетаў на адкрыццё і закрыццё фестывалю ў продажы даўно няма...

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**
Віцебск, па тэлефоне.

*Чарнобыль: зямля і людзі*

# НОВЫЯ «КАНЦЭПЦЫІ», СТАРАЯ ПАЛІТЫКА

**Сумна вядомая канцэпцыя «35 бэр» акадэміка Л. Ільіна ўжо даўно адвергнута большасцю беларускіх і ўкраінскіх вучоных. На сесіі Кіеўскага гарадскога Савета Л. Ільін быў нават аб'яўлены... «персонай нонграта». А ў Маскве, падобна на тое, спрабуюць праводзіць старую лінію: прыборы насельніцтву не даваць, бо, хто ведае — што можа атрымацца, калі людзі будуць ведаць сапраўдную інфармацыю!**

**Нядаўні прыезд на Беларусь Генеральнага дырэктара МАГАТЭ Ханса Блікса і яго выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета БССР толькі прыбавілі сумненняў. Няўжо ў Маскве хутка з'явіцца новая «канцэпцыя»! Калі ж скончацца «дэбаты» вакол Чарнобыля! Чаму людзі не могуць набыць дакладныя, дасканалыя дазіметры!**

**На пытанні няштатнага карэспандэнта «ЛіМа» адказваюць член-карэспандэнт АН БССР, дырэктар навукова-тэхнічнага цэнтра «Радыяметр» Васіль Барысавіч НЕСЦЯРЭНКА і кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт кафедры ядзернай фізікі і электронікі БДУ імя У. І. Леніна Аляксандр Міхайлавіч ЛЮЦКО.**

В. НЕСЦЯРЭНКА: — Я лічу, што палітыка цэнтра папранейшаму застаецца такой: як мага менш інфармацыі даць насельніцтву. У гэтым і сутнасць новай «канцэпцыі» маскоўскіх вучоных. У прыватнасці, дырэктар Навукова-даследчага інстытута біяфізікі Міністэрства аховы здароўя СССР Ільін даводзіць, што трэба выпускаць толькі гамадазіметры. Яны ж прасцейшыя ў тэхнічным плане. А калі будзе больш складаны, хоць і больш карысны прыбор, дык насельніцтва, як мяркуюць у інстытуце біяфізікі, не зможа ім карыстацца. Маўляў, «цёмны» ў нас народ.

Скажам, у дазіметры «Сасна», які не раз згадваўся ў друку, 4 дэтэктары. А дырэктар беларускага філіяла фірмы «Изотоп» Мінатамэнергапрома СССР В. Астапчук прапануе зменшыць іх колькасць удвая — дзеля эканоміі! Ды гэта абсурд. Калі так разважаць, дык дзеля эканоміі трэба наогул адмовіцца ад дэтэктараў. Але ж такім, з дазволу сказаць, «дазіметрам» проста нельга будзе карыстацца.

**— Аляксандр Міхайлавіч, наколькі мне вядома, часова дапушчальныя ўзроўні забруджанасці прадуктаў радыенуклідамі (ЧДУ-88) у Маскве збіраюцца захаваць да 1993 года. Цікава, якімі крытэрыямі кіруюцца людзі ў маскоўскіх кабінетах, калі прымаюць падобныя рашэнні?**

А. ЛЮЦКО: — Крытэрыяў, здаецца, няма ніякіх. ЧДУ, нормы радыяцыйнай бяспекі, 35-бэрная канцэпцыя — усё гэта вызначалася Нацыянальнай камісіяй па радыяцыйнай ахове насельніцтва СССР. У яе ўваходзяць прадстаўнікі 3-га галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя СССР — інстытут біяфізікі, клініка прафесара Кучковай, інстытут радыяцыйнай гігіены марскога транспарту ў Ленінградзе і г. д. Усе гэтыя ўстановы — «пристяжные» Мінатамэнергапрома. Яны працуюць разам з 1945 года, пачынаючы з атамных выпрабаванняў у Казахстане і на Новай Зямлі. Уся інфармацыя збіралася ў іх. Кожны выбух «рабіўся» чыёйсьці дысертацыяй. Лічыцца, што толькі ў гэтым ведамстве ёсць вартыя спецыялісты па радыяцыйнай тэматыцы. Старшыня Нацыянальнай камісіі — акадэмік Ільін, яго намеснік — акадэмік Булдакоў.

Такім чынам, мы маем манаполію ведамства. І яны зараз не ўступаюць ні ў якія дыскусіі. Прытаіліся і маўчаць. Але ж ніхто не адмяніў ні ЧДУ-88, ні ўсе астатнія нарматывы! А старшыня Дзяржаграпрома Беларусі лічыў, што ў нас у рэспубліцы з прадуктамі харчавання ўсё ў парадку, бо ўзровень іх забруджання адпавядае ЧДУ. Таму мы і ставім пытанне аб стварэнні незалежнай Нацыянальнай камісіі па радыяцыйнай ахове насельніцтва БССР. Сёння сітуацыя парадаксальная: нават карты радыяцыйнага стану рэспублікі мы возім у Маскву. Там іх зацвярджае старшыня Дзяржгідрамета Ю. Ізраэль, і толькі потым карты вяртаюцца ў рэспубліку, дзе іх можна публікаваць.

**— Значыць, нас збіраюцца карміць бруднымі прадуктамі да 1995 года ўключна? А як да такой перспектывы ставіцца наш Вярхоўны Савет?**

А. ЛЮЦКО: — Я думаю, сітуацыя ў рэспубліцы ўжо мяняецца. І на плошчы Леніна гэтае пытанне «рашаць» сёння няма неабходнасці. Вярхоўны Савет БССР у цяперашнім складзе ў гэтым пытанні салідарны з народам.

В. НЕСЦЯРЭНКА: — Дзве праблемы трэба вырашаць у першую чаргу. Стварыць Нацыянальную камісію па радыяцыйнай ахове і адкрыць пазаведамасны цэнтр радыяцыйнай бяспекі. Бо зараз Дзяржаграпром і Міністэрства аховы здароўя ніхто, па сутнасці, не кантралюе. З якіх гэта часоў, скажам, медыкі вызначаюць правільнасць норм разліку? Гэта справа фізікаў. Напрыклад, у бета-часцінкі стронцыю прабег вельмі малы. Трэба выбраць для яе індыкацыі адпаведны тып дэтэктара, ведаць, дзе яго размясціць і г. д. А такой методыкі ў нас дагэтуль няма. На вялікі жаль!

**— Васіль Барысавіч, у інтэрв'ю газеце «Социалистическая индустрия» за 28 лістапада 1989 г. вядомы вам Д. К. Папоў — навуковы супрацоўнік НДІ радыяцыйнай гігіены, заявіў: «У Маскве і Ленінградзе знешняга абпраменьвання няма наогул, і калі жыхары гэтых гарадоў будуць піць малако і харчавацца мясам з утрыманнем цэзію, якое ўдвая перавышае норму, дык гадавая доза абпраменьвання масквіча будзе ў межах, якія ніяк не змогуць паўплываць на яго самаадчуванне і здароўе». Вось як! Аказваецца, атручваць людзей можна не толькі на Беларусі, але і ў Маскве і Ленінградзе?**

В. НЕСЦЯРЭНКА: — Паважаны апанент Папоў нядаўна прыслаў мне пісьмо, у якім спрабуе абвергнуць неабвержныя ісціны. Ён лічыць, што пры разліках дозы ад крыніцы абпраменьвання, актыўнасць якой змяншаецца ў часе, дзейнічае закон не лінейнага, а экспаненцыяльнага назапашвання дозы. Паводле формулы, якую прапануе мой апанент, чалавек за жыццё набірае 1,3—0,3 бэра. Але ж толькі з прадуктамі жыхар Беларусі можа набіраць штогод 0,7—0,8 бэра. І за 70 год пры такім узроўні забруджання ўнутранае абпраменьванне арганізма складзе ў дзесяткі разоў большую лічбу.

А. ЛЮЦКО: — Вядома, што не менш як палова дозы, калі не больш, складаецца за кошт прадуктаў харчавання. Па звестках НДІ радыяцыйнай медыцыны утрыманне радыеактыўнага цэзію ў арганізме жыхароў рэспублікі вельмі высокае. Мала таго, яно прыкладна аднолькавае ў тых, хто жыве на забруджаных тэрыторыях, і ў жыхароў «чыстых» зон — у Віцебскай, Гродзенскай абласцях, у Мінску.

В. НЕСЦЯРЭНКА: — Я думаю, ЧДУ ў рэспубліцы неўзабаве будуць зніжаны як мінімум у 2—5 разоў. Але гэта толькі пачатак. Далей на першы план выйдзе праблема стронцыю. У Нараўлянскім, Брагінскім раёнах галоўную небяспеку людзям нясе ён. (У раёне вёскі Стрэлічава забруджванне стронцыем складае да 3,5 кюры на кіламетр). Неабходна апаратура для кантроля прадуктаў. Скажам, па малаку патрэбна дакладнасць на ўзроўні $10^{-10}$ кюры на літр.

**— Па звестках Інстытута радыяцыйнай медыцыны фактычна ўсё насельніцтва нашай рэспублікі зраўнялася па цэзію. Пра гэта першым напісаў М. Матукоўскі ў «Известиях». Цяпер некаторыя журналісты папікаюць Матукоўскага за гэтыя, нібыта неправераныя звесткі. Кажуць, што ён, маўляў, не меў права абнародаваць іх у саюзнай газеце...**

А. ЛЮЦКО: — Гэтую інфармацыю паведаміў дырэктар інстытута акадэмік Мацюхін на адным з пасяджэнняў. Дарэчы будзе сказаць, ён — член Нацыянальнай камісіі па радыяцыйнай ахове насельніцтва СССР, блізкі сябра акадэміка Ільіна, адзін з сааўтараў вядомага пісьма 92 медыкаў у Маскву. Я думаю, яго паведамленне — аб'ектыўнае ў гэтым выпадку.

В. НЕСЦЯРЭНКА: — Ёсць падставы лічыць, што ўтрыманне цэзію ў арганізме жыхароў Беларусі ледзь не ў 10—20 разоў вышэй, чым да аварыі на ЧАЭС.

**— Аляксандр Міхайлавіч, вы асабіста ведаеце вельмі многіх ліквідатараў катастрофы. У іх медыцынскіх картках запісана доза 3—5 бэр. Але ж чаму тады гэтыя людзі паміраюць?**

А. ЛЮЦКО: — Так, фактаў, калі маладыя, з выгляду здаровыя хлопцы знянацку паміраюць, шмат. Але ж «знянацку» такога не бывае. Справа ў тым, як лічылі індывідуальную дозу. Вось нядаўна пракурор Брагінскага раёна ўзбудзіў крымінальную справу супраць асоб, якія кіруюць нашай медыцынай. Гэта першы вядомы мне выпадак. Падстава для крымінальнай справы вось якая: у адпаведнасці з загадам Міністэрства аховы здароўя СССР двойчы ў год павінна праводзіцца абследаванне ўсяго насельніцтва. На




***«Праўда аб Чарнобылі» — спецыяльны чатырохпалосны* ўкладыш пад такім загалоўкам змешчаны ў адным з нумароў уплывовай лонданскай газеты «Сандзі таймс» (тыраж 1 млн. 150 тыс. экз.). У багата ілюстраваным рэпартажы англійскіх журналістаў падрабязна расказваецца аб наступствах чарнобыльскай бяды, аб тых умовах, у якіх існуюць жыхары забруджаных раёнаў Беларусі. У тэксце ёсць спасылкі на выказванні святара Аляксандра Надсана, урача Тамары Белавокай, вучонага Алега Шадыры.**

**Каштоўнасць падобных публікацый, якія даносяць да замежнага чытача праўду аб маштабах катастрофы, цяжка перабольшыць. Асабліва сёння, калі Беларусь спадзяецца на дапамогу міжнароднай супольнасці.**

*Помнік Скарыне:*

# ВАНДРОЎКА З ПРАСПЕКТА Ў ВЕРХНІ ГОРАД

(Пачатак на стар. 1).

дзе. Між тым не сакрэт, што адкрыццё Скарынавага мемарыяла планавалася як галоўная падзея года першадрукара. Той, хто гэта планаваў, лічыў, што ў мастацтве, як у вытворчасці, патрэбных вынікаў можна дамагчыся «штурмаўшчынай». І вось мастакам і архітэктарам для выратавання плана прапаноўваецца шлях найменшага супраціўлення.

Якія ж кропкі горада прывабілі ўдзельнікаў конкурсу? Найперш адзначу, што многія не змянілі сваёй думкі, што лепшае месца для помніка—на Ленінскім праспекце, побач з акадэміяй. Аднак, як відаць, з новых праектных прапаноў, размова ўжо ідзе не аб «прывязцы» помніка да існуючага архітэктурнага асяроддзя, але аб ператварэнні пляцоўкі перад каланадай акадэміі ў новы гарадскі пляц — плошчу Францыска Скарыны. У гэтым выпадку помнік разглядаецца як галоўны, але не адзіны элемент эстэтызацыі асяроддзя. На пляцу павінна з'явіцца архітэктура малых форм, дэкаратыўная пластыка. Магчыма, з часам дойдуць рукі і да фасадаў будынкаў на другім баку праспекта. Павінен нарадзіцца мастацка-культурны ансамбль не менш важны ў структуры горада, чым плошча Коласа ці Купалаўскі сквер. Гэта вялікая праца для мастакоў, архітэктараў, будаўнікоў. Праца не на адзін год. Але гэты пляц будзе помнікам, вартым памяці вялікага сына Беларусі.

Іншыя ўдзельнікі конкурсу лічаць, што помнік павінен стаяць у Верхнім горадзе. Галоўны аргумент «за»—гістарычнае асяроддзе. У пэўным сэнсе гэта так. Тут, бадай, адзінае месца ў нашай сталіцы, дзе адчуваецца старажытнасць — гісторыя, якая пачынаецца не з Кастрычніка 1917 года; гісторыя, якая была заўжды. Аднак сёння Верхні горад— гэта ў асноўным падмуркі, на якіх яшчэ толькі будуць (зноў жа — калі?) адноўлены гістарычныя будынкі. А паколькі будынкаў, да якіх збіраюцца прысуседзіць помнік першадрукару, якія разглядаюцца ў праектах як фон для помніка, яшчэ няма,—дык вельмі лёгка памыліцца ў маштабе. Ці не здарыцца так, што калі паўстануць адноўленыя царква Святога Духа і Менская ратуша, помнік (ён паўстане раней, можа, у канцы гэтага года) будзе побач з імі чужародным?

І яшчэ адна акалічнасць, пра якую, здаецца, забылі і ўдзельнікі конкурсу і журы. Ужо ёсць рашэнне аб будаўніцтве на пляцы Волі ў Верхнім горадзе помніка тым, хто ўсталёўваў на Беларусі Савецкую ўладу. Значыць, Скарына будзе стаяць побач з Мясніковым, Дзяржынскім... Ці не замнога помнікаў для маленькай плошчы?

Аднак паспрабуем на хвіліну забыцца пра Мяснікова і Дзяржынскага (хоць гэта вельмі цяжка) і ўявім адноўлены Верхні горад без іх. Цэльны архітэктурны ансамбль Верхняга горада будзе вымагаць ад аўтараў помніка стылізацыі «пад старыну», свядомага адмаўлення ад сучаснай трактоўкі формы, што можа моцна збядніць вобраз Скарыны. І галоўнае — само асяроддзе прымусіць рабіць помнік камерным. У выніку можа атрымацца помнік для сквера, а трэба—помнік для горада; помнік, які б адпавядаў вызначэнню «нацыянальны мемарыял». Таму мы зноў вяртаемся да ідэі мемарыяла побач з Акадэміяй навук.

Дарэчы, на грамадскім абмеркаванні праектаў, што адбылося 10 ліпеня ў Палацы мастацтваў напярэдадні пасяджэння журы, прагучала прапанова ўключыць у праграму года Скарыны перайменаванне ў гонар першадрукара галоўнай вуліцы Мінска, якая зараз называецца Ленінскім праспектам. Прадстаўнік Міністэрства культуры У. Уродніч успрыняў гэту прапанову без энтузіязму. Яно і зразумела, для Беларусі такія грамадскія акцыі—справа новая. Як мне вядома, у нашай рэспубліцы нічога, што носіць імя Леніна, яшчэ не перайменоўвалі... Не ведаю нават, ці была гэтая прапанова пісьмова зафіксавана, але тое, што яна паўплывала на рашэнне журы па трэцяму туру — відавочна. Нібыта баючыся, што ўслед за з'яўленнем плошчы Францыска Скарыны па Ленінскім праспекце неўзабаве і сам праспект стане Скарынінскім, некаторыя члены журы (на тым пасяджэнні 12 ліпеня яны аказаліся ў большасці) галасавалі за тое, каб на Ленінскім праспекце помніка Скарыне не было.

У складзе журы дваццаць два члены. На пасяджэнні прысутнічалі пятнаццаць. Шэсць галасавалі за помнік ля Акадэміі навук, адзін устрымаўся, восем — за помнік у Верхнім горадзе. Восем чалавек вырашылі лёс помніка першадрукару ў паўтарамільённым горадзе. Няўжо канчаткова?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

*Дзве думкі пра спектакль Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Вар'яцкае жыццё»*

# НЯЛЮДСКАЕ ЖЫЦЦЁ

Сардэчныя недаўменні свае мы звыкла выдаём жартаўлівасцю, якая нікога не палохае. Але калі зазірнуць за яе, то ўбачым, што за нашы заўчасныя, ці запозненыя, ці незапатрабаваныя таленты чамусьці робіцца гэтак жа хваравіта няёмка, як, напрыклад, за таго чэхаўскага героя, які спачатку назбіраў мільён марак, а потым як зручней на іх лёг і застрэліўся. Я цалкам разумею розныя пачуцці і думкі з гэтай прычыны, носьбіты якіх называюць іх «здаровымі». «Во дурань», — чую я поўны такога самага здаровага аптымізму і бясконцай веры ў Чалавека голас горкаўскага Саціна, — «дурань дурнем! якую калекцыю сапсаваў! Не, каб збоку легчы!» Вось так, людцы, і жывём — з талентамі, што з'явіліся ў гэты свет невядама на што і дрэнчацца самі, і кпяць з дурнотнага дрэнчання адных і са шкадавання, глупстваў, звягаў другіх.

**Пра такіх людзей драматург С. Злотнікаў напісаў п'есу «Дурное жыццё», а рэжысёр А. Андросік паставіў па ёй спектакль «Вар'яцкае жыццё». Бачыў, магчыма, нейкае істотнае адрозненне паміж гэтымі толькі на першы погляд сінанімічнымі вызначэннямі. Што да мяне, то я прынцыповай розніцы паміж абедзвюма назвамі не бачу. Хіба што «Вар'яцкае жыццё» па-беларуску гучыць лепш, смачней — амаль гэтак жа, як «Дурацкая жизнь» па-руску.**

**Трэба сказаць, што гэты спектакль з'яўляецца адным з тых рэдкіх спектакляў, якія прыносяць задавальненне сваёй рэжысёрскай пабудовай — і грунтоўнасцю апавядання, і надзіва арганічным спалучэннем драматычнага аповяду з музыкай, і мантажом падрабязна і разнастайна распрацаваных сцэн. Вызначае спектакль і высокая тэхнічная культура, і адмаўленне ад традыцыйнага побытавага існавання ў некаторых сцэнах, і пошук новых сродкаў выразнасці, і арэчаўленая метафарычнасць таго, што некалькі дзесяцігоддзяў назад было б заклеймёна як «недапушчальныя фармалістычныя выкрутасы». Спектакль у многім падобны на галоўнага героя п'есы — дзівакаватага прарока, адкрыцці якога яшчэ чакаюць свайго часу.**

У п'есе чатыры дзейныя асобы. Злотнікаў расказаў нам пра дзівака, які з глузду з'ехаў... на выратаванні чалавецтва; пра дзіўную жонку дзівака, што пацiху вар'яцее ад самоты; пра прадстаўніка Улады — хама і гвалтаўніка, што траха не сканаў ад белай гарачкі; пра пані лёгкіх паводзін, дзіўнасць якой таксама можна растлумачыць прычынамі псіхіятрычнага толку. Як бачыце, — каманда досыць дастойная...

Чаму ж у гэтым спектаклі непрызнаны геній Жолуд не заваяваў прыза глядацкіх сімпатый? Ён жа, дзівак, вынаходнік, наватар, даследчык глыбіняў космасу і іх уплыву на тэктанічную дзейнасць Зямлі, з першага свайго з'яўлення на сцэне больш падобны на запойнага п'яніцу, сляпога, апантанага сабой і сваімі ідэямі чалавека, чым на ўзорнага, абезабліčанага савецкага грамадзяніна. Да таго ж ён не заўважае, дый не жадае заўважаць пакут іншых людзей, і ў першую чаргу — блізкіх. Магчыма, менавіта першая сцэна з жонкай пазбаўляе Жолуда абаяльнасці яго правобразаў — і прарокаў, якія не прызнаюцца сваёй айчынаю, і Дон Кіхота, які здзяйсняе ў імя высокай мэты свае забаўныя подзвігі. Маральная слепата, цвёрдасць, што даходзіць да жорсткасці, зацыкленасць на сваіх праблемах, цяжкая істэрычнасць, якая лёгка пераходзіць у дыктатуру ўласных жаданняў і памкненняў, размова на павышаных танах — усё гэта, на жаль, пераважвае чалавечую абаяльнасць акцёра А. Падабеда і яго персанажа.

**Нежаданне лічыцца з інтарэсамі жонкі дасць аб сабе знаць і далей, напрыклад, тады, калі наш прарок, паспрабаваўшы заступіцца за абражаны, зняслаўлены гонар жонкі, раптам знойдзе, зразумее, што яе крыўдзіцель — той Вялікі чалавек, якога ён доўга чакаў, ад якога залежыць не толькі выратаванне вялікага горада ад разбуральнага землятруса, але і ягоны, Жолуда, асабісты лёс, лёс яго нікому не патрэбнага таленту. І гэта будзе даволі, каб забыцца — тут сама! адразу ж! — і на крыўду жонкі, і на ўсе неверагодныя падзеі, што здарыліся гэтай наччу. Адзінае, на што забудзецца наш герой, дык гэта пераапрануцца, каб прадстаць перад Уплывовай Асобай у гарнітуры і гальштуку. Гэтая лёкайская рысачка не толькі пераважвае стаіцызм няўдачлівага героя, але і пераводзіць яго самога з галоўных дзейных асоб у асобу, лёс якой робіцца, на жаль, нецікавым. Можна было б, як мне здаецца, абудзіць спачуванне да яго ў трэцяй карціне, якая цяпер выглядае другім фіналам спектакля, калі б Жолуд раптам зразумеў усю меру сваёй віны перад жонкай. Аднак менавіта тут мы канчаткова расчароўваемся, — магчыма, ад таго, што яму не ўдалося прачнуцца ад сваёй унутранай, маральнай, душэўнай летаргіі, калі ён сустракаецца са сваёй жонкай, якая вярнулася з вар'ятні...**

Д'ябальская, неўласцівая тэатру — і мастацтву ў цэлым — абыякавасць адольвае нас, — і з палёгкай, нават з нейкай радасцю сустракаеш знікненне-гібель Жолуда: маўляў, дзякуй Богу, даўно б так! А на сэрцы — нібыта камень застаўся: штосьці не так, штосьці не тое з намі, гледачамі, адбываецца, ці ж можна заставацца ў тэатры абыякавым да лёсу чалавека?! Аказваецца — можна. Шкада, што і на гэтым спектаклі.

Гісторыі, пра якія гаварыў Феліні, відаць, уяўляюць сабой не толькі і не столькі пералік апісаных драматургамі падзей, але, перш за ўсё, наша душэўнае, кранальнае разуменне герояў і іх руху ў спектаклі ці ў фільме. Як гэта ні страшна, але для нас, людцаў, мала сказаць: «Вось так забілі чалавека!», каб знутры нас узнікла хоць бы збянтэжанасць ад уласнай абыякавасці. Мы глядзім: а якога там чалавека забіваюць? І калі не ўзнікае спачування, калі не ўзнікае суперажывання, то з'яўляецца... цікаўнасць: а ці цікава забіваюць? І яшчэ больш жахліва: ці прыгожа? У Козінцава ў «Гамлеце» быў такі жахліва прыгожы план: па прыгожа зарослай водарасцямі рацэ прыгожа плыве нябожчыца-прыгажуня Афелія. Не можа, не павінен труп быць прыгожым! Смерць — можа, труп — не. Інакш пакуты чалавека ператвараюцца ў смешнае дзумканне заціснутай ў кулаку мухі, а мастацтва перастае быць чалавечным, ператвараючыся ў погляд іншапланецянаў з мноствам апошнім часам лятаючых талерак. Жолуд таксама пакідае нас прыгожа: ён адыходзіць да свайго зорнага свету, хаваючыся за святлом электрапрыбора, які асляпляе глядзельную залу. Быў з намі — і пакінуў нас, прыгожа і элегантна. Рэжысёрская метафара ясная і зразумелая, але з яе дзіўным чынам знік чалавечы змест.

**Змястоўны зрух у спектаклі істотным чынам адбіўся і на ўспрыманні дзейных асоб, пра што крыху ўжо гаварылася вышэй, і на матывах таго, што адбываецца, і на жанравай цэласнасці спектакля. Дзейныя асобы нібыта прыйшлі ў яго з п'ес розных тэатральных школ, напрамкаў і эпох: адны — з высокай трагедыі, другія — з бытавой камедыі, трэція — з псіхалагічнай драмы. У гэтым, хутчэй за ўсё, была і задума рэжысёра: жыццё шырэйшае за светапоглядныя ўстаноўкі, яно часта нібы выпадкова сутыкае нас, такіх розных, такіх учарашніх і заўтрашніх, у адзінае, непарыўнае цэлае. Аднак пры гэтым, пэўна, трэба было б правесці, устанавіць адзіны для ўсіх акцёраў спосаб існавання ў ролі, у спектаклі. Стылёвая рознагалосіца выглядае дысанансам, асабліва ярка яна праявілася ў работах Н. Качатковай і Т. Пузіноўскай. Качаткова прыкідваецца такой ужо бесшабашнай, капусніцка-вясёлай, мы радуемся яе ўдалым знаходкам і эксцэнтрычным выбрыкам, аднак ні на секунду не забываем, што гэта — акцёрскае прытворства, і адбываецца гэта, можа, таму, што побач з ёю жыве без прытворства гераіня Т. Пузіноўскай. Падабенства гэтага супрацьпастаўлення можна знайсці і ў работах А. Падабеда і В. Давыдзькі.**

Старшыня гарвыканкома, якога іграе Г. Давыдзька, з'яўляецца на сцэне ўлукаткі: яго вывозяць. Глядач у нас п'яных вельмі любіць, — яны заўсёды такія смешныя, такія забаўныя — *як малыя дзеці*. І многія акцёры вельмі любяць іграць п'яных: па-першае, гэта ўдзячны матэрыял для прад'яўлення сваіх акцёрскіх здольнасцей, па-другое, — стопрацэнтная гарантыя глядацкіх сімпатый. П'янаму многае даруецца. Гэта *крымінальны кодэкс* да яго суровы, а гледачы — больш паблажлівыя. Ну і што, калі п'яны на сцэне некага згвалціў альбо сіліўся гэта зрабіць? Гэта ж не са злосці, без намеру, а так, па п'янцы. Тым больш, што і паненка не вельмі і супраціўлялася. Праўда, потым яна чамусьці заклікае свайго мужа пакараць гвалтаўніка. Але гэта, відаць, ад нерваў, — надта ўжо нервовая паненка трапілася. Я знарок злёгку ўтрыравана пераказаў вельмі істотны вузел спектакля—для таго, каб выявіць некалькі важных звенняў тэатральнай гісторыі. Але галоўнае захаваў дакладна — дух таго, што адбываецца, сэнс таго, што ўспрымаецца. Вядома, калі б такое здарылася з намі ў жыцці — было б не да смеху. А на спектаклі мы дабрадушна смяёмся. Таму што гэта — тэатр, а не жыццё. Таму што многае тут — знарочыстае. Але чамусьці, з нейкай няўмольнай паслядоўнасцю, і ўсё істотнае, сэнсавае, змястоўнае ў гэтым спектаклі таксама ператвараецца ў тэатральную гульню ці, калі хочаце, у тэатралізаваную праўду. Некаму гэта можа не спадабацца, у другой часткі пошук новых тэатральных формаў выклікае ў гледачоў бурны энтузіязм. Мне здаецца самым значным, што гэты пошук, нягледзячы на агульны крызіс тэатра, усё ж ідзе і набывае, магчыма і не самыя дасканалыя формы, але, безумоўна, яны прываблiваюць і заслугоўваюць добрай увагі. Выдаткі на шляху спасціжэння форм тэатра непазбежныя, і яны не павінны нікога расчароўваць. Цяпер, калі ў краіне марудна, з рыпеннем, але ўсё ж ствараюцца перадумовы для дастойнага чалавека жыцця, паступова будуць з'яўляцца ўмовы для рэалізацыі незакліканых у сённяшні свет талентаў, у тым ліку і таленту прарока Жолуда. І можа, наша дурнотнае, вар'яцкае жыццё яшчэ пры нас набудзе яснасць і здаровы сэнс.

**Уладзімір НЯЛІДАЎ.**

# ПАРАДОКСЫ ВЫЖЫВАННЯ

Існуе псіхалагічны феномен: калі ведаеш нешта жудаснае, небяспечнае, дык... нібыта і не ведаеш гэтага. Робіш усё, каб выкінуць з галавы, забыцца, не памятаць. Так зручней, так спакайней, каб не звіхнуцца, каб выжыць... можа, гэта толькі з намі за апошнія дзесяцігоддзі генетычна зрабілася, а можа, — з усім чалавецтвам?... Але не хочам мы бачыць, што гінуць рэкі і моры, што не толькі плады зямлі, але нават сам іх водар стае атрутай, не хочам ведаць пра нітраты, бо што тады есці, не хочам чуць пра радыяцыю, бо як тады жыць... І не любім пракаў, празарліўцаў, якія адкрываюць нам бездані небяспекі, імкнуцца нас выратаваць.

А менавіта такі празарлівец — галоўны герой спектакля купалаўцаў «Вар'яцкае жыццё» (п'еса С. Злотнікава).

Мушу адразу адзначыць, што па-руску п'еса называецца «Дурацкая жизнь». Паняцце гэтае больш простае, і куртатае. На сцэне ж, створаная рэжысёрам Андрэем Андросікам, пануе фантасмагорыя менавіта «Вар'яцкага жыцця». Яно і смешнае, і кранальнае, у ім шмат да болю знаёмага і яно ж уздымаецца да вяршынь біблейскае прыпавесці.

У п'есе галоўны герой, беспрацоўны фізік са смешным прозвішчам Уладзімір Жолуд, можа здавацца і дзіваком, і крышачку вар'ятам; у спектаклі рэжысёр А. Андросік і мастак С. Антонаў адразу паказваюць нам, што ён — геній, таму што мы бачым, як працуе Жолуд, якімі пакутамі аплачвае свае адкрыцці: хударлявы да празрыстасці, напалову аголены, распінае ён сябе на крыжы сваіх трапецый, парабал, адвесаў, і б'юць у яго ці маланкі, ці токі высокага напружання, і сам ён свеціцца, вібрыруе і курчыцца ў пакутах, пакуль не загарыцца ў яго на далоні, як пунсовая кветка, далёкі сігнал з космасу і не зваліцца ён, знясілены, на карту свету, па якой разлічвае месцы катаклізмаў. Спяшаецца ён папярэдзіць людзей, выратаваць, рассылае «вар'яцкія» тэлеграмы, выпрошваючы на іх у жонкі апошнія грошы...

Ён прадказаў землятрус у Мексіцы, ён прадбачыў катастрофу ў Арменіі, але ніхто не чуе яго, ніхто не дае яму веры!

Тут, у кватэры Жолуда, якая зусім не падобная на чалавечае жытло, а, хутчэй, нагадвае лабараторыю, і адбываецца ўсё дзеянне спектакля. Тут сыходзяцца ўсе чатыры дзейныя асобы, нашы сучаснікі і амаль міфалагічныя постаці: пакутнік і празарлівец Жолуд (А. Падабед), жанчына з талентам кахання, яго жонка Маша (Т. Пузіноўская), вясёлая блудніца (Н. Качаткова) і Увасабленне Улады (А. Гарцуеў).

Тут адбываюцца з імі падзеі адначасова трагічныя і фарсавыя. Тут віртуозна з'яднаны рэжысёрам квартэт правядзе нас праз найскладаную партытуру настрояў — ад смеху і спачування да ўзрушанасці і жаху.

На нашых вачах адбываецца анатаміраванне немагчымасці паразумецца! І сама атмасфера неразумення павісае і робіцца амаль фізічна адчувальнай з той самай хвіліны, калі мэра далёкага горада Новацяперска Роберта Кузьміча Кулебу, *п'янага да непрытомнасці*, як бярвяно ўкатвае на іклатай магазіннай тачцы ў пакой Жалудоў крыклівая і вульгарная Люся. З гэтага імгнення ўсё тут будзе перавернута дагары нагамі.

Саміх гаспадароў — безабаронных, бязмежна тактоўных, якія ў адказ на самае дзікунскае хамства толькі і могуць прашаптаць: «Гэта не інтэлігентна» — абвінавацяць у здрадзе, рабаўніцтве, крадзяжы.

Былы загадчык гаража Кулеба абсалютна ўпэўнены, што добрай працай з шафярнёй давёў свае права кіраваць горадам з амаль чвэрцьмільённым насельніцтвам, а гэта вось выратавальнік замінае яму сваімі тэлеграмамі і папярэджаннямі.

Стваральнікі спектакля дэманструюць нам, што ў гэтых людзей сапраўды няма нічога агульнага; што стаяць паміж імі недавер, страх і нянавісць. Усё ў нашым свеце неяк скранулася са сваіх месцаў. Бо настаўніца Маша сарамліва лічыць, колькі танных піражкоў можа з'есці, каб дажыць да зарплаты, а блудніца Люська за вечар з Кулебам бярэ трыста рублёў...

Уладзімір Андрэевіч Жолуд парушэнні маральных і прычынных сувязяў, людскую азлобленасць, усеагульнае хамства разумее як пачатак апакаліпсіса і не разумее, чаму людзі змірыліся з ролямі ахвяр, чаму стаяць у чарзе па рыбу, а не па выратаванне. Каб не бачыць усяго гэтага — глупства, злабы, дзікунства, галечы, каб мець магчымасць працаваць, — ён зачыняе вокны і дзверы ў сваім доме.

А Кулеба — плоць ад плоці таго, што адбываецца за вокнамі. Ён п'е як усе, як усе лаецца. У яго непарушная сістэма жыццёвых арыенціраў. Ён ведае, што высокія словы людзі балбочуць, каб ашукаць адзін аднаго; што ўсё начальства — белая косць — свалата; што дэпутацкі значок даражэйшы за чалавечае жыццё і што там, наверсе, не любяць турбавацца. А тут такі клопат — перасяляць цэлы горад, гэта ж... колькі думаць, колькі працаваць, якія грошы патрэб-

А ў 1579 годзе пры набліжэнні войск Сцяпана Батуры да Полацка акупанты пайшлі на новыя злачынствы: у горадзе наладзілі забойствы жыхароў адно дзеля таго, каб знявечаныя трупы палачан прывязваць да бярвенняў ды спускаць па Дзвіве. Гэтак думалася застрашыць тых, што наступалі...

Да поўнага выгнання палкоў Івана Грознага з Беларусі Полацкі край абязлюдзеў і здзічэў. Каб выжыць, адсюль уцякалі апошнія сяляне. І калі прыйшлося адбудоўваць пабураныя замкі, людзей бралі аж но з Магілёўшчыны.

Вось яна, гісторыя полацкага «вызвалення».

МІНУЛАЕ застаецца аб'ектыўнай рэальнасцю, хоць і ў рэтраспектыве. А значыць, яна не залежыць ад палітычнай кан'юнктуры. Люстэрку часу нельга быць крывым.

Аднак у нас — нібы ў Царстве Крывых Люстэрак: тут адбываецца самае неверагоднае. Гэтак у 1987 годзе беларускія выдавецтвы «Ураджай» і «Мастацкая літаратура» перавыдалі раман-трылогію рускага пісьменніка В. І. Костылева «Иван Грозный» (у трох кніжках) накладам у 300 тысяч асобнікаў. Бестселер 1940-х стаў бестселерам канца 1980-х перабудовачных гадоў: яго імгненна раскупілі. Калі ў 1948 раман атрымаў Сталінскую прэмію за апалогію царскага дэспатызму, дык пасля грандыёзнага поспеху ў Беларусі на 1988 год яго ўключылі ў план да выпуску па абанементах на макулатуру накладам да 2—3 мільёнаў.

Раман, што й казаць, цікавы. Ужо ў анатацыі чытаем: «Грозный изображается царем, все дела которого подчинены интересам народа». І пачынаецца салодкая рамантычная казка пра добрага чалавека і вялікага рускага патрыёта Івана Васільевіча. Вось ён «пожалел, простил и отменил казнь» растоўскаму князю, якога злыя баяры ўжо засудзілі на смерць. А вось першы маскоўскі цар абвяшчае, што «Ливонские земли — извечно русские...», ды пачынае Лівонскую вайну са словамі: «Не хочу терпеть обиду, учиненную мне и моему народу». У Прыбалтыцы, ваюючы з немцамі, царскія ваякі моцна сябравалі з тамтэйшым людам. «Любо было московским ратникам в деревнях слушать песни латышских девушек под нежную музыку струн куокле, напоминающих русские гусли». Добрыя і сардэчныя «московские ратники, словно к родне, толпами ходили к латышам в гости».

У другой кніжцы рамана ёсць і пра вайну з Вялікім княствам Літоўскім. Па Костылеву, гэты Жыгімонт Аўгуст «бесчестно липнет, как смола, к московским границам». Вось таму цар і пайшоў вайною. Толькі ў мэтах самаабароны, бяспекі Маскоўскага княства, гэтаксама як раней падбіваў Казанскае ды Астраханскае ханствы, башкіраў ды каго іншага: «чтобы не зорили наших городов, не уводили в полон наших людей...».

Прыгадваюцца падзеі ў Полацку. Фларэнціец Джыявані Тэдальдзі, пераконваючы рымскага папу, што «московский царь вовсе не такой, каким его изображают польский король и паны», даводзіць: Грозны не тапіў у Полацку манахаў закону святога Францыска, «одинаково лгут и про то, будто он утопил евреев».

Часам нехта з герояў рамана кажа: «Люблю батюшку государя, как бы отца родного... Мудрый он». А скранчальная сцэна наогул кранае. На палубе фрагманскага карабля расійскага ваеннага флоту стаіць узнёслы Пётр І ды задуменна прамаўляе: «Достохвальныя памяти царь Иван Васильевич мудрый был государь...».

Вось, выходзіць, якім быў Іван Грозны. Не такім, як у нас на Беларусі. Ці, можа, у абліччы тырана ён увайшоў у гісторыю толькі суседніх народаў, а для Маскоўскай дзяржавы гэта быў «мудры государь», «отец родной»? Можа, сапраўды ўсё залежыць ад таго, з чыйго боку глядзець? Бо кожная падзея і з'ява бачылася ў Маскве гэтак, а ў Вільні —інакш. Напрыклад, для Полацка лютыя забойствы 1563 года былі страшным горам, а маскоўскі летапісец напісаў пра гэта як пра радасную падзею: «Божиим же неизреченным великим милосердием и государьскою теплою верою к Богу и его государьским умыслом в Полотцску в городе и в остроге ротмистров и королевских дворян и всяких воинских людей и черных из наряду много бесчисленно побили...».

КАЛІ ДЛЯ БЕЛАРУСІ Іван Грозны — забойца і захопнік, паколькі хадзіў ён на Беларусь толькі дзеля гэтага, дык кім бачыў маскоўскага дзяржаўцу падначалены яму народ? Кім стаў для Расіі яе першы цар?

Хто пералічыць усе ягоныя злачынствы, хто апіша вакханалію садызму, хто вызначыць колькасць зарэзаных, задушаных, утопленых, закатаваных... Толькі ў Ноўгарадзе Вялікім узімку 1570 года царскія апрычнікі больш месяца забівалі людзей, па 500—1000 штодзённа! Бясконца доўжыліся кары невінаватых у сталіцы ды па іншых гарадах. Царскі гнеў быў непрадказальны. Прыкладам, баярын Рэпнін стаўся зарэзаным па загаду Грознага ў царкве, пад час малітвы толькі за тое, што колькі дзён таму адмовіўся ад удзелу ў непрыстойнай п'янай гульні з самадзержцам. А ліпеньскаю раніцай 1570 года на плошчу перад Крамлём «по указу великого государя» было выведзена адразу 300 чалавек. Тут ужо мелася «300 плах», а в них 300 топоров, и 300 палачей стояху у плах онех». Сам манарх з'явіўся «в черном платье и на черном кони с сотники и стрельцы и повеле палачем имати по человеку... по росписи именитых людей казнити»...

І мала хто з сучаснікаў адважваўся папракнуць цара ў гэтакім крывавым тэроры супраць уласнага народа, як у адчаі кінуў яму пскоўскі старац Мікола: «Харчуешся чалавечай плоццю ды крывёю, забываючы не толькі пра пост, але й пра Бога!» Праз якое пакаленне вырак свой прысуд і летапісец: «Множество народу от мала до велика при царстве своём погуби, и многие городы своя поплени...». Аднак гісторыя пісалася па сцэнарыі, падрыхтаваным у царскіх пакоях. Нястрымная апалогія дэфармавала і народную памяць: у рускім фальклоры Іван Грозны выступае то як «цар-Сабака», то як «справядлівы суддзя».

Вось жа дзяржава непадзельнага дэспатычнага адзінаўладдзя ды яе ідэалагічнае апраўданне і ёсць ці не найбольшай бядой, пакінутай яго цараваннем. Менавіта тады была закладзена сістэма задушвання кожнай апазіцыі, любой альтэрнатывы, усялякай праявы іншасці і самой чалавечай годнасці. Цар прымусіў князёў ды баяраў падпісвацца словам «халоп», — і слова гэтае зрабілася ці не самым ганаровым тытулам у Маскоўскай дзяржаве, а дваранства стала халопствам. Цар пачаў скрозь рассылаць сваіх адданых слугаў «слушать... всяких людей всяких речей и писати тайно», — і казаць вучыліся не тое, што думалі. Вось новая партыя бязвінных ахвяр тэрору стаіць на маскоўскай плошчы. Іван Грозны звяртаецца да натоўпу: «Народ! Увидишь муки и гибель. Но караю изменников. Ответствуй, прав ли суд мой?» І народ у адказ: «Да живет многие лета государь великий! Да погибнут изменники!» (М. Карамзін). Народ шануе свайго справядлівага цара, верыць яму, як «отцу родному». І ўжо ў аналы на вякі-вечныя заносіцца: «У нас государь царь благочестивый. Ереси никоторое не любит. И во всей его государьской земле ереси нет. У печати седят книги правят избранные люди и безпрестанно над тем делом следят. А над теми людьми надзирают по государеву указу...» (каб чытач не зблытаў часы, дадам, што гэта напісана ў XVII, а не ў XX ст.).

Для Еўропы маскоўскі цар быў дэспатам, роўных якому не існавала ні ў старажытным, ні ў новым свеце.

Еўропа ведала маскоўскага самадзержца не толькі па ягоных войнах, але й па адмысловай дыпламатыі. Англійскую каралеву Елізавету ён назваў «пошлой девицей», польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста — «паче худейша худейших рабов суща», а шведскаму каралю кінуў не менш абразлівае: «ты мужичий род, а не государьской». Нічога дзіўнага, цар лічыў сябе непараўнальна вышэйшым ад усіх еўрапейскіх манархаў, бо толькі ён у дзяржаве «вольны добрых жаловати, а лихих казнити», а яму — «никто не может указу учинити». Без пагарды Іван Грозны паглядаў хіба што на турэцкага султана, на Еўропу ж раўняцца зусім не мерыўся.

ЦЯПЕР АДНОСІНЫ да Івана Грознага і ягоных спраў—праблема не толькі маральная. Стаўленне да яго — лакмусавая паперка, якая вызначае як грамадска-палітычныя пазіцыі асобы, так і сведчыць пра дух грамадства. Вельмі паказальна, што лепшая руская інтэлігенцыя XIX стагоддзя (у прыватнасці, гісторыкі М. Карамзін, Зм. Ілавайскі, В. Ключэўскі, С. Платонаў ды шмат хто іншы) лічыла сваім доўгам адмоўна ацэньваць гэтага каранаванага разбойніка. Сярод людзей, што крытыкавалі Івана IV, былі нават шчырыя манархісты. С. Салаўёў увогуле пісаў, што гісторык ніколі «не прамовіць словы апраўдання такому чалавеку».

Дзіўным чынам пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў савецкай гістарычнай літаратуры з'явіліся не толькі словы, — сапраўдныя оды «во славу царя Ивана Грозного». Першым за гэта ўзяўся гісторык Р. Віппер. У шматлікіх выданнях ягонай кнігі «Иван Грозный» (1922, 1942, 1944 гг.) манарх паказаны «повелителем народов и великим патриотом», «одним из величайших дипломатов истории всех времен». Аўтар адмятае любую крытыку цара, знаходзіць гістарычнае апраўданне апрычніне.

Спрычыніўся да ўсхвалення грознаўскага царавання і С. Бахрушын, які ў 1942 і 1945 гадах выдаваў манаграфію «Иван Грозный» (затым уключыў яе ў збор твораў) ды пісаў адпаведныя часткі падручнікаў па гісторыі. І ён быў пераканаcны, што дзейнасць гэтага цара сустрэла гарачую падтрымку рускага народа, што народ захаваў «яркую память о грозном царе Иване Васильевиче». Што ж да гісторыка І. Смірнова, дык той наогул даводзіў выключнасць ваяўнічага дзяржаўцы як «мужа чюдного разсуждения» і героя, «деяния которого воспеваются в песнях»...

Застаецца прыгадаць словы І. Сталіна. Той гэтаксама бачыў свайго куміра Івана Грознага «великим и мудрым правителем, который ограждал страну от проникновения иностранного влияния и стремился объединить Россию». Кола, як кажуць, змыкаецца. Грозны — Пётр І—Сталін...

Было б нядобра змаўчаць пра тое, што супраць ідэалізацыі царавання Івана IV выступалі і выступаюць асобныя савецкія гісторыкі — С. Дуброўскі, В. Кобрын, ды хто-колечы іншы. Рэвізія пачалася ўжо па смерці «правадыра ўсіх народаў». Але хто чуе гэтых асобных...

Ці па інерцыі, ці гэта клопатам пэўных уплывовых колаў атрутная імперская міфалогія прадукуецца з нераншым напорам. Яскравы прыклад таму — вяртанне забытага рамана Костылева.

# КАЛІ ВЕЦЕР СЦЯГ РАЗГОРНЕ...

(Пачатак на стар. 13).

...ТАК НЕ ХАПАЕ нам сёння, пад нашым невысокім пахмурным небам, якое ад чарнобыльскіх крылаў стала яшчэ ніжэйшым, святла і чысціні. Шолах квяцістых бел-чырвона-белых сцягоў не падыме небасхіл. Але яго жывыя «краскі» мацуюць веру ў тое, што народ адолее любую навалу. Мы ўжо даўно павыкідвалі абразы, затое ў нас паявіўся сцяг-«талісман». Да яго можна звярнуцца са словамі, адбітымі на крыжыку з распятым Ісусам, якія калісьці давалі ў царкве кожнаму дзіцяці пры хрышчэнні:

### «ВЫРАТУЙ І ЗАХАВАЙ»

У сцягу — наша надзея на будучыню. Хаця — ні ён сам, ні маленні на яго не зробяць цуд. Абудзіцца інтарэс грамадства да самога сябе, рушыцца яно на справе да новага жыцця — і «двухколер» зробіцца святыняй. Не здарыцца гэтага — сцяг застанецца звычайнай пярэстай анучкай і зноў кане ў забыццё.

Будзем спадзявацца, што гэты лёс міне беларусаў і іх сімвал-знаходку.

Як бачым, бел-чырвона-белы сцяг — найбольш удалы, надзейны, дзейсны нацыянальны сімвал. І сапраўды — вобразны і лаканічны адбітак лёсу беларускага народа. Гэта — наш сцяг, іменна такім ён і павінен быць, другога не трэба й выдумляць. Вышэйшая воля дарue яго знікаючай з зямлі нацыі, даючы ёй апошні шанц, каб захавацца.

Не здзіўлюся, калі скора «двухколер» атрымае паўсюднае прызнанне і будзе абвешчаны ў якасці дзяржаўнага. Гэта будзе азначаць, што Беларусь, следам за іншымі, пачынае жыць на новы лад.

...Такія вось думкі і пачуцці ахопліваюць мяне, калі бачу знаёмыя колеры. Так я разумею сэнс нашага сімвала, так адчуваю і «чытаю» яго сутнасць, яго «гаворку».

Красуй жа і ўздымайся над Рэспублікай усё вышэй, знак нашай надзеі — бел-чырвона-белы сцяг!

**Лявон ПУСКІН,**
супрацоўнік Рэспубліканскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў.

# Цёркін Прыільмення

Ён нетаропка пераліствае аднатомнік выбраных твораў Аркадзя Куляшова, выдадзены Ленінградскім аддзяленнем выдавецтва «Советский писатель». На нейкі момант перапыняе размову, учытваецца ў той ці іншы радок, як бы нешта прыпамінаючы, а потым зноў працягвае свой расказ. Праўда, на гэты раз Уладзімір Васільевіч Цюрын некалькі адхіліўся ад тэмы, але ўсё роўна гэта датычыць нашага земляка-паэта.

— Добрая памяць пра народнага паэта зямлі беларускай да 70-годдзя з дня яго нараджэння, — кажа, паказваючы на кнігу, дацэнт кафедры літаратуры Ноўгарадскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута У. В. Цюрын. — Пастараўся крытык Варлен Бечык, які напісаў да гэтага найбольш поўнага выдання вершаў і паэм Аркадзя Аляксандравіча на рускай мове артыкул пра жыццёвы і творчы шлях паэта. «Цёркін Прыільмення» — так называлі ў суровыя ваенныя гады Аркадзя Куляшова. І невыпадкова...

У час вайны Аркадзь Куляшоў атрымлівае накіраванне ў ваенна-палітычнае вучылішча пад Ноўгарадам. Але праходзіць азбуку ваенных навук яму доўга не давялося. Немцы ўжо захапілі гарады Востраў, Вялікія Лукі, Пскоў, дабраліся і да Ноўгарада. У гэтыя дні войскі 11-й арміі з цяжкімі баямі адыходзяць да Старой Русы. У маляўнічым месцы каля вёскі Меднікава размясціўся штаб рэдакцыі газеты «Знамя Советов», куды быў залічаны на пасаду пісьменніка (была такая) Аркадзь Куляшоў. Там і пазнаёміліся беларускі паэт і сённяшні выкладчык літаратуры з Ноўгарада.

Становішча патрабавала аператыўнасці, разнабаковасці жанраў. Хутка адбылася першая нарада супрацоўнікаў рэдакцыі газеты «Знамя Советов», на якой разглядалася пытанне пра франтавы гумар і сатыру на яе старонках. Пасля гарачага абмеркавання была прынята прапанова Аркадзя Куляшова. Так у газеце з'явіўся куток, у якім у вершаванай форме сталі асвятляцца справы аднаго воіна, бывалага і вопытнага. Была падтрымана назва кутка: «Рассказ о том, как бьет врагов на фронте Алексей Петров». Ужо ў пачатку верасня адбылася першая сустрэча-знаёмства воінаў 11-й арміі з Пятровым:

Познакомимся с Петровым —
Где родился он, как звать?
Алексей — душевным словом —
с детства звала его мать.

Становішча на фронце было тады вельмі цяжкае: 11-я армія апынулася ў акружэнні. Але ўсё-такі газета «Знамя Советов» трапляла на ўдарныя пазіцыі, водгукі пра Аляксея Пятрова, якія прывозілі з камандзіроўкі супрацоўнікі рэдакцыі, былі самыя прыхільныя, найлепшыя. Байцы ўбачылі ў літаратурным герою смельчака, майстра сваёй справы, прасілі рэдакцыю хутчэй паведамляць пра яго далейшыя прыгоды.

І вершаваныя расказы аб прыгодах своеасаблівага Васілія Цёркіна сталі з'яўляцца на старонках газеты праз два-чатыры дні. Запомніліся байцам вершаваныя расказы «Как Петров уничтожил диверсантов», «Случай на дороге», «Приманка против фашистского танка», «Групповой огонь», «На ловца и зверь бежит» і іншыя. Адным словам, Пятроў у 11-й арміі з'яўляўся эталонам, узорам паводзін воінаў на фронце; ён стаў папулярным, у рэальнасць яго існавання паверылі. Больш за год са старонак «Знамени Советов» біў ворага Аляксей Пятроў, палавіну вершаваных расказаў пра яго (а іх было некалькі дзесяткаў) стварыў А. Куляшоў, да астатніх прыклаў руку пісьменнік І. Чэкін.

— Так, Аляксей Пятроў заняў належнае месца ў шэрагу літаратурных герояў, пабрацімаў Васілія Цёркіна, — працягвае свой расказ дацэнт У. В. Цюрын. — Баявым гімнам 11-й арміі стала створаная беларускім паэтам «Песня нашего соединения». Кіраўнік армейскага ансамбля М. Смузікаў напісаў музыку. Песня гэта была вельмі папулярная сярод салдат.

Аркадзь Куляшоў шмат пісаў у гады Вялікай Айчыннай. Ноўгарадцы любяць яго паэзію, бо многія творы паэта нарадзіліся на старажытнай зямлі Прыільмення. Думаецца, вельмі дарэчы ўспомніць пра гэта ў слаўныя 45-ыя ўгодкі перамогі над фашысцкай Германіяй.

**Сямён ЖАМОЙДА.**
г. Ноўгарад.

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Змітраку Бяспаламу з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці БАЦЬКІ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніку Міхноўскаму М. У. з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці БАЦЬКІ.**

# «ПІШУ Я ПРА СЯБРОЎ...»

Даволі часта Аляксея Пысіна называюць паэтам-франтавіком. Па форме, знешне — яно праўда. А калі дакладней, па сутнасці, то ён — чалавек-франтавік, як паэт ён — гуманіст, лірыка ягоная антываенная.

А яшчэ крытыкі сцвярджаюць, што тэма вайны ў творчасці А. Пысіна — галоўная. Не спрачаюся з тым, што тэме вайны паэт удзяліў тую ўвагу, якой яна заслугоўвае. Але не галоўную. Галоўнымі тэмамі ягонай творчасці былі: чалавек-працаўнік, жанчына-маці, экалогія, каханне, Радзіма.

І ўсё ж вайна для гвардыі радавога чатырох франтоў А. В. Пысіна не скончылася ў 1945 годзе. Яна яго суправаджала ўсё жыццё. У аўтабіяграфічных радках ёсць і такія: «Падмаскоўныя бярозы і смаленскія дубы, беларускія сосны і балтыйскія клёны, ссечаныя снарадамі, прашытыя кулямі, і сёння стаяць уваччу. Заплюшчыш вочы, і бачыш пры ўспаміне зарывы палаючых вёсак, руіны гарадоў, забітых людзей. Па дарогах баявых паходаў, у шынялі і ў касцы прайшло маё юнацтва».

Але жахі вайны, свой боль паэт трымае пры сабе, маладому пакаленню ён не жадае паўтарэння свайго лёсу:

**Бяру з сабой нялёгкія дарогі,**
**Сляды пакут, што не датлелі там,**
**Бяру з сабой бяссонныя трывогі,**
**А юны свет — я юным перадам.**

На вайне А. Пысін вершаў не пісаў. «...На вайне, — успамінаў ён пазней, — у мяне была адна зброя: руская трохлінейная вінтоўка».

Але ж і пазней не пісаў пра вайну ажно пятнаццаць год! У першых зборніках вершаў А. Пысіна вайны яшчэ не было. І толькі ў трэцім — «Сонечная паводка» — мы чуем ваенныя матывы і асэнсоўваем горкую памяць паэта:

**Ляглі сябры ва ўсім паходным,**
**Гарматы сціхлі. Цішыня.**
**Што сніцца ім пад небам родным**
**На досвітку ў пачатку дня?**

А ў чацвёртым зборніку твораў «Мае мерыдыяны» (1965) і пятым — «Твае далоні» (1967) — тэма вайны загучала на ўсю моц. Чаму?

Ды таму, што над планетай навіс цень злавеснай атамнай бомбы, пад пагрозай апынулася ўсё жывое на Зямлі.

**Пішу пра смерць, пра кроў,**
**Пішу я пра сяброў,**
**А іх жа, родных,**
**Хавалі не ў труне,**
**І запаветам мне:**
**«Пра нас раскажаш...»**

А каб расказаць, трэба ўспомніць, яшчэ раз перажыць цяжкае мінулае, прапусціць боль праз сваё сэрца, асэнсаваць перажытае з вышыні дня сённяшняга і з позіркам у будучыню. Сам паэт гаварыў пра гэта так: «Мінулае нам належыць так, як і будучыня. Тое, што я не напісаў раней, мушу напісаць цяпер, у новым асэнсаванні і асвятленні».

Думаецца мне, што А. Пысін за пятнаццаць год здолеў набраць патрэбную вышыню, з якой аднолькава выразна бачна як мінулае, так і будучае.

Помніцца, у канцы сямідзесятых гадоў Аляксей Васільевіч запытаўся ў мяне:

— А ці можа з'явіцца на свет новы Гітлер?

Пытанне мяне застала знянацку. Таму я на хвіліну задумаўся, але адказаў адназначна:

— Можа!

Аляксей Васільевіч, як мне падалося, і чакаў менавіта такога адказу. Ён усміхнуўся,- затым дастаў з кніжнай паліцы зборнік вершаў і з яўным задавальненнем прачытаў радкі:

**Няма ключа такога хітрага,**
**Каб адамкнуў ён склеп зямны.**
**Баюся ўсё ж з'яўлення Гітлера,**
**Пакуль жыве душа вайны.**

І дадаў: — Бачыш, 1967 год. А ніводзін з крытыкаў яшчэ не заўважыў верш.

Антываенная лірыка А. Пысіна бярэ пачатак з уласнага яго вопыту, падзей і фактаў яго біяграфіі. Вось чаму чытач верыць кожнаму слову паэта. Узяць хаця б радкі з верша «Кінаэпапея «Вялікая Айчынная»:

**На кіламетрах здымкаў франтавых**
**Я, можа, болей чым хто іншы бачу,**
**Душой я ў кожным з мёртвых і жывых...**
**Наступны заўтра фільм... Пайду паплачу.**

У многіх вершах мы амаль дакументальна ўспрымаем прачытанае. Вось, да прыкладу, радкі з верша «Гвардзейскай дарогай»:

**Дарога згубілася ў топкім бяздонні,**
**У асеннім карыце гразі.**
**Гарматы загразлі, і топяцца коні,**
**Хоць сам у хамут — і вязі.**
**Загад батальёнам: «Сюды на плячах**
**Прынесці з дзялянак дарогу!»**
**І неслі мы сосен ствалы**
**Па карчах,**
**Як зброю для перамогі.**

А было гэта на Ленінградскім фронце, калі дывізія выходзіла з акружэння. Аляксей Васільевіч не адзін раз успамінаў пра тую дарогу. Пад колы гармат салдаты клалі свае шынялі, і з лесу на плячах насілі дровы, і грыбы елі сырыя, і спаць клаліся на сырую зямлю. А пад раніцу ўсіх засыпала снегам. Многа салдат тады засталося спаць вечным сном.

Асабліва выразна гучаць антываенныя матывы ў радках «Балады пра начлег». «Граната ў руках. Патрон у ствале. Чаго нам, сябры, яшчэ не стае! Стралковая рота сопку ўзяла... Пад намі зямля, над намі зямля».

— Як разумець апошні радок? — пытаюся ў Аляксея Васільевіча, хоць і ўсведамляў жудасны сэнс слоў, што скаланулі мяне.

— Так і разумей, магіла, — коратка адказаў ён.

І з болем у сэрцы нагадаў, што не вельмі лічыліся ў вайну з жыццём салдат. Выказваў пратэст супраць песні, у якой сцвярджалася, што «Нам нужна на всех одна победа, мы за ценой не постоим...».

Паэт Аляксей Пысін марыў пра свет без войнаў, верыў у раззбраенне армій:

**Хачу без касні, без пагонаў**
**Хадзіць з сябрамі па зямлі.**
**І каб у чашах палігонаў**
**Жывыя кветкі расцвілі.**

Антываенная лірыка А. Пысіна вельмі праўдзівая і гуманная. Даследчыкі творчасці А. Пысіна прыйшлі да высновы, што ён у паэзіі — як Быкаў у прозе.

Так яно і ёсць!

**В. АРЦЕМ'ЕЎ,**
ветэран працы.
г. Магілёў.

# «ЗАСТАЛОСЯ — ТОЛЬКІ ЖЫЦЬ...»

**Чым захапляе чытача паэзія Яўгеніі Янішчыц? Магутнай духоўнай энергіяй, нейкай празрыстасцю, смуткам, святлом. Невыпадкова Р. Барадулін у вершы «Яшчэ адно прызнанне Палессю» напісаў: «Зоры, як вершы Жэні Янішчыц, — з суму і са святла».**

**Любоўю да творчасці нашай зямлячкі было прасякнута і першае раённае свята беларускай паэзіі, якое адбылося ў вёсках Велясніца і Рудка Пінскага раёна. Цудоўныя мясціны... Тут нарадзілася Жэня. «Пад сонцам найвышэйшай пробы» прайшло яе дзяцінства, пачаліся пошукі асабістага шляху ў паэзіі.**

**Шмат зацікаўленых сабралася каля фотавыставы Іллі Вакуліча «Зямля і людзі». Побач — саматканыя ручнікі, рознакаляровыя «вясёлкі», цудоўная вышыўка, вырабы з дрэва. Але самае галоўнае і самае цікавае на свяце — успаміны тых, хто добра ведаў Яўгенію Янішчыц, разам з ёю рос, вучыўся, працаваў.**

**Былі на свяце і члены СП БССР Казімір Камейша, Уладзімір Дзюба, прадстаўнікі мясцовага літаб'яднання «Арбіта» Алесь Бібіцкі, Валерый Грышкавец, Зіновій Вагер, Леанід Крывіцкі. Гучалі вершы самой паэтэсы, а таксама радкі, прысвечаныя ёй.**

**З успамінамі выступілі родны брат паэткі Міхаіл Янішчыц, настаўнік А. Грэчка, сяброўка Р. Ганчарык. Людзі мелі магчымасць набыць цікавыя кніжкі, прыняць удзел у літаратурнай віктарыне. Дарэчы, пераможцай яе стала С. Ліпчук.**

**У паэтэсы ёсць такія радкі: «Апынуся калі сярод чорных варон, — я памру, ды не буду па-іхняму каркаць...» Вельмі цяжка жыць з такім сэрцам сярод мітусні, адчужанасці і недаверу, зайздрасці і абыякавасці, жорсткасці і хамства. Яўгенія Янішчыц сама лічыла сябе непрыручанаю птушкай.**

**Такі ўжо, напэўна, лёс таленту — выплеснуцца ў адзіным парыве натхнення і адысці без пары, пакінуўшы нашчадкам сваю ўсхваляваную споведзь.**

**Дзякуй, «палесная ластаўка», за шчырыя вершы. Аднавяскоўцы цябе не забудуць — сведчанне таму Свята паэзіі, якое стане традыцыйным і будзе збіраць на беразе Ясельды кожны год у першую ліпеньскую нядзелю ўсё больш аматараў творчасці дзяўчыны з Палесся.**

**Таццяна КАЗАК,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**




**З 23 ПА 29 ЛІПЕНЯ**

**24 ліпеня.** Пасля заканчэння трансляцыі сесіі Вярхоўнага Савета БССР

**1374 КІЛАМЕТРЫ — ДЫСТАНЦЫЯ. ФРАНКФУРТ—МІНСК.**

Сумесная праграма БТ і тэлебачання зямлі Гесен (ФРГ).

Тэма праграмы — наша агульная трагічная гісторыя: Вялікая Айчынная вайна і наступствы чарнобыльскай катастрофы.

**26 ліпеня. 18.00**

**«МОЙ ДОМ У БЯДЗЕ...»**

Прэм'ера дакументальнага кінанарыса БТ.

Стужка расказвае аб мёртвай зоне ў некалі квітнеючых вёсках Нябытаў і Бабчын Хойніцкага раёна.

Аўтар сцэнарыя А. Шлег, рэжысёр А. Сухоцкі, аператар Л. Слобін, гукарэжысёр Т. Сабярайская.

**28 ліпеня. 16.30**

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Тэлечасопіс.

Адбудзецца сустрэча з беларускім паэтам са Злучаных Штатаў Амерыкі М. Сяднёвым.

Гледачы таксама сустрэнуцца з маладымі літаратарамі В. Шніпам, Л. Рублеўскай і Л. Дранько-Майсюком.

**28 ліпеня. 19.20**

**СЯМЕЙНАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ**

Гармонія сямейных адносін.

Прымае ўдзел астролаг Тамара Глоба.

**29 ліпеня. 11.50**

**Ю. СЕМЯНЯКА. «ПАЎЛІНКА»**

Спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР.

Рэжысёр-пастаноўшчык С. Штэйн.

У галоўнай ролі—Н. Гайда.

**29 ліпеня. 14.25**

**«БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА»**

Да 90-годдзя У. Дубоўкі.

**29 ліпеня. 15.15**

**ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ**

Л. Смялкоўскі, Я. Янішчыц. «Дазвольце мне помніць пра Вас».

Спявае Г. Радзько.

**29 ліпеня. 16.30**

**ПАННА БЕЛАЯ РУСЬ**

Фінал І Рэспубліканскага конкурсу прыгажунь.

**29 ліпеня. 18.05**

**ГРАМАДСКАЯ ДУМКА**

Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў беларускай архітэктуры.

Бяруць удзел заслужаныя архітэктары БССР А. Воінаў і В. Багласаў.

Аўтар і вядучая праграмы — Л. Бандарэнка.

**29 ліпеня. 19.20**

**А. КРУМЕР, М. МІХАЙЛАЎ. «НОНСЕНС»**

Прэм'ера спектакля БТ.

Рэжысёр-пастаноўшчык—У. Забела.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 06337 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.

Намеснік галоўнага рэдактара Мікола ГІЛЬ.